Васіль Жуковіч

# БОЛЬ,
# І ВЕРА,
# І ЛЮБОЎ

Кніга паэзіі

Мінск
«Каўчэг»
2020

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5
Ж85

Аўтар выказвае сардэчную ўдзячнасць
*Лізе Супрунюк* і *Людміле Чалей*
за падтрымку гэтага выдання.

**Жуковіч, В.А.**
Ж85 Боль, і вера, і любоў : кніга паэзіі /
Васіль Жуковіч. – Мінск : Каўчэг 2020. –
92 с.
ISBN 978-985-884-020-4.

У новай кнізе Васіль Жуковіч пранікнёна піша пра любоў да роднага краю, свайго народа, яго выдатных сыноў і дачок, родных ды блізкіх людзей – маці, каханай, сяброў, землякоў. Ярка вылучаюцца нізкі вершаў “Свяціся імя тваё”, “Інтымны лад”, “Духоўная радня”. Такая паэзія стварае ў чытачоў пазітыўны настрой.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-884-020-4**

## Дарунак ад Натальлі Арсеньневай

Некалі так нечакана,
Нібыта ў казкавым сне,
Пошта прынесла з-за акіяна
Кнігу з аўтографам мне:
*Паэту*
*Васілю Жуковічу*
*падпісвае гэтую кнігу таксама паэт*
*Натальля Арсеньнева*
*й зычыць, каб часіны натхненьня*
*й часіны творчасьці наведвалі Вас*
*як найчасьцей.*
*ЗША*
*Люты 1991 г.*

О, Натальля Арсеньнева,
О, легендарная!
Слова Вашае – дар дарагі.
Пэўна, быць мне ў палоне тугі:
Процьму часу патраціў марна я…
Ах, сплаціць бы даўгі!..
За часіны натхнення магу пазмагацца,
Як бы ні назаляў шэры свет.
Я – за вольна-натхнёную працу…
Без натхнення паэт – не паэт!

*2019*

## Лёс Максіма Багдановіча

...У хлопца – невылечныя сухоты,
Прычына для нуды, самоты.
Але ў яго здароўе ідэальнае
Патрыятычнае, маральнае,
Сябе ў чужыне ён стварае,
Аб шыраце духоўнай дбаючы;
Ён не самотны – кнігу мае, –
Усведамляе, паміраючы...

Жыццёвы лёс – такі трагічны!
Але шчаслівы – паэтычны,
Перамагае дух ствральны:
Сын Беларусі – геніяльны!

*13 снежня 2011*

## Кніга не здрадзіць

*Людміле Несцяровіч*

У нашым свеце мітуслівым,
У агрэсіўным і хлуслівым,
Дзе не дае спакою ліха,
Паўстане радцай добрай кніга;

Багатая сардэчнай мовай,
Яна ў будзёншчыне суровай,
Дзе здрадаў цьма і звадак поўна,
Сяброўкай можа стаць духоўнай.

Дзе шмат выпрабаванняў вечна,
Хвароб і стрэсаў небяспечных,
Тут кніга мудрая стаць можа,
Бясспрэчна, лекаркай харошай.

У драматычным свеце й тлумным,
Дзе шумных шмат падзей і сумных,
Ад усялякіх бедаў, ліха
Яна дапамагае ціха.

Яна не лішняя і ў шчасці,
Калі забыты ўсе напасці.
Дапоўніць можа кніга радасць.
Яна табе не можа здрадзіць.

Усім і кожнаму я зычу
(Жадання, хочаце, пазычу)
Сустрэцца з кнігаю цудоўнай,
Каб шчасце піць. Ды з чары поўнай.

*Люты 2011*

## Праўда Кастуся Каліноўскага

Жніва хоча той, хто пасее.
Го, рукі ў сяўца не дрыжаць!
Пасеяць ён горкую праўду паспее,
Каб волю жаданую жаць…

Пятля абвіла яму горла,
У цемры патоплены дзень.
Ды мужнае слова не ўмёрла,
Магутнае рэха ідзе,
Ляціць над галечай, раскошай,
Знаходзіць шляхі і куткі.
…Мужыцкая праўда
каштуе пяць грошай…
Няма ёй цаны, дзецюкі!

*1988, 2018*

## Душа мастака

Жыццё чалавека – як знічкі палёт,
Як свечкі святло залатое.
Пад ногі нярэдка яму – галалёд,
На сэрца – маланкі парою.

Не ведае шляху свайго чалавек
І што яму наканавана,
Спяшаецца ўсё-такі жыць і жыве
Ён, мэтай святой апантаны.

На неабсяжных прасторах быцця
Душа чалавека не згіне,
Калі загарыцца святлом адкрыцця,
І след незабыўны пакіне.

Хай свечка згарае дарэшты, датла,
У космасе знічка знікае,
А ты заставайся крыніцай святла,
Душа мастака трапяткая.

*2012*

## Да помніка падобны

Пасля Парыжа
Я моцна ўражаны
Адным чалавекам ссівелым,
Які, седзячы каля дома на лаве штодня,
Нагадвае мне “Мысляра” Агюста Радэна.
Праўда, калі той падпёр галаву адною рукою,
То гэты сваю падпірае аберуч.
Ён доўга сядзіць у адной гэткай позе,
Нерухомы, як помнік.
Відаць, думы цяжкія
Заселі ў яго галаве;
Пэўна, страціў ён
Сваю спадарожніцу недзе ў сяле
І яго перавезлі дзеці ў горад.
А што ён селянін – відавочна,
Бо пінжак не скідае нават у спёку.
І сядзіць ён на нізкай лаве,
Блізка зусім да зямлі –
У адрозненне
ад радэнаўскага “Мысляра”.

*Травень-чэрвень 2010*

***

Ой, грэшная імперская Расія
З каранаваным Мікалаем Першым,
Бо мардавала Тараса Шаўчэнку –
Зрок зоркі, чуйны слых, сумленне Украіны!

Наіўная імперская Расія,
Бо думала, што Мастака-Паэта
Зрабіла вязнем крэпасці-астрога,
Забіла зрок і слых, сумленне Украіны.

Тарас Шаўчэнка, мудры, мужны, слынны,
З вялікім сэрцам, з яснай галавою
Ды з самаробным сшыткам за халявай
Быў самы вольны на ўсім белым свеце.

Замучаны, ён стаўся неўміручым.

*2002*

## Дарога ля жыта

Прыснілася мне ты, ля жыта дарога.
О, як у жыцці з табой злучана многа:
І першыя крокі, і юныя крокі.
Выводзіла ты мяне ў свет у шырокі.
Стаялі валошкі ў сонечных промнях
І ўсё каласы шапацелі мне: “Помні!..”
Дарога ля жыта, святая дарога!
Цяпер я іду да другога парога,
А ты наплываеш, ізноў наплываеш,
У поле жыцця ты майго ўпадаеш,
Па ўсіх аўтастрадах, па шумных праспектах
Бяжыш, не дасі мне згубіцца павек ты,
Дарога ля жыта.

*2010*

## Неруш

Колькі вёснаў ні пражыта,
А як вернешся здалёк –
Заварожыць каля жыта
Сінязорка-васілёк;
Тонкім водарам здаецца
Палыновы горкі пах
І лагодай цешыць сэрца
Над крыніцай белы птах.

Забрыдзеш паволі ў неруш
Дзесь далёка ад дарог –
І душою ўсёй паверыш:
Край бацькоўскі даў нам Бог.
Да цябе павек вяртацца,
Храм пад купалам нябёс.
Я гатовы спавядацца
Перад свечкамі бяроз.

Патануць люблю ў рамонках,
Не паранены журбой,
І заслухацца гамонкі
Ветру з ніцаю вярбой.
Думы-сокалы на волі
Да нябёсаў я нясу
Пра тваю, радзіма, долю
І адвечную красу.

*2010, травень*

## Пажыццёва

Дружа дзяцінства, родны вяз!
Няма ні руінаў падмурка,
На якім узвышалася хата,
Ля якое ты рос,
Ні самога цябе.
Дзікае калгаснае земляробства
Асушыла і сажалкі, і крыніцы,
На якія ты змалку глядзеў.
Памёр ты ад стрэсу.
Але сваімі лістамі-далонямі
Прылашчыць мяне паспеў;
І голасам ціхім
Да гэтай балючай мясціны
Ты, вяз, пры**вяз**аў маё сэрца.
І з той пары, **вяз**е, мяне аба**вяз**ваеш
Не ад**вяз**вацца
Ад успамінаў дзяцінства,
Ад родных мясцінаў,
І я, нібы **вяз**ень,
Што прагне свабоды,
Вяртаюся аба**вяз**кова
Пастаяць там, дзе хата стаяла,
Дзе рос я разам з табою,
Такі не**вяз**учы мой вяз!

*01 – 13.03.2011*

## Не завіце святыню малой!

Малая радзіма?.. Правал паміж слоў,
Хоць нехта у сэнс іх паверыў,
Назваў недарэчна святыню малой,
Аднёс яе ў шэраг памераў.

Радзіма… У ёй да скончэння вякоў
Прастору душа набывае.
Магчыма, бывае малая любоў,
Святыні малой не бывае.

*2018*

## Ружаны

*Веры Шамяцюк*

Люблю малыя гарадкі я.
Бяру для прыкладу Ружаны.
Тут людзі шчырыя такія,
Любові вартыя, пашаны.

Пра вучняў добра школа дбае –
Паэтаў запрашае школа;
Народ спакойна пажывае;
Царква не сварыцца з касцёлам.

Ружаны, вам вякоў нямала.
Люблю я з вамі сустракацца.
Ваш беларускі дух трывалы,
Ён абяцае патрымацца…

Хоць у жыцці не ўсё і гладка,
Вялікі можа цуд адбыцца:
На радасць продкам і нашчадкам
Сапегі замак аднавіцца.

*16.03.2012*

## Трыяда

Ваша са мной трыадзінства,
Вера, надзея, любоў,
Я не губляюся, бо
Ваша са мной трыадзінства.

На пуцявіне любой
Вы мне апора з дзяцінства.
Ваша са мной трыадзінства,
Вера, надзея, любоў.

*2008*

## Маміна слова

Мая мама верыла ў Бога,
Змалку чуў я яе малітвы,
А яшчэ, нібы гром, энергічнае,
Бы маланка, імклівае, слова г р э х.
Гэтым словам яна асуджала,
Ушчувала, бывала, яна:
Грэх ля гора людскога смяяцца!
Грэх не ведаць ніякае працы!
Грэх птушыныя гнёзды бурыць!
З гэтым правілам рос я, вырас,
З ім падняўся ў свой першы вырай,
Не расстаўся й да гэтай пары.
Сыне мой, ты сыночкаў гадуеш,
Сэрца ім цеплыні не шкадуеш,
Толькі памятай, што пры нагодзе
Аніколі, нідзе не зашкодзіць
Словы мамы маёй паўтарыць.
Грэх
    ля гора дюдскога смяяцца!
Грэх
    не ведаць ніякае працы!
Грэх
    птушыныя гнёзды бурыць!

*1985, 2000, 2018*

***

Праз вайну, матулечка, прайшла,
Зведала цяжар нечалавечы.
Колькі помню, ў беднасці жыла,
А сказаць дакладней – у галечы.

Шчаснай доляй Бог не надзяліў
І здароўем добрым – гэтаксама…
Дзеці першым клопатам былі,
Клопатам тваім заўсёдным, мама.

Сэрца працінаў і боль, і сум,
І трывога вечная даймала…
Але свету белага красу
Бачыць анішто не замінала.

*2005*

***

*Васілю Андрыеўскаму*

**1**
Калі жыццё прыцісне нечакана –
Да маці шлях з палону цяжкіх дум.
Не страшна расказаць ёй пра бяду,
Калі жыццё прыцісне нечакана.

Збянтэжаны яна падыме дух,
Суцішыць боль, загоіць сэрца рану.
Калі жыццё прыцісне нечакана –
Да маці шлях з палону цяжкіх дум.

**2**
Да маці шлях травой не зарасце –
Туды вядзе не толькі ў час нягодаў:
З сумленнем згода – не шукаць нагодаў:
Да маці шлях травой не зарасце.

Што ёсць святлей за маміну лагоду,
За маміну любоў што ёсць чысцей?
Да маці шлях травой не зарасце –
Туды вядзе не толькі ў час нягодаў.

**3**
Нішто пад сонцам не існýе вечна.
Жывая ж маці – й кут бацькоў жывы.
Калісьці стрэнеш там палын сівы…
Нішто пад сонцам не існуе вечна.

Ад страты станешся ніжэй травы,
Істоту ўсю праймацьме жаль сардэчны!
Нішто пад сонцам не існуе вечна.
Жывая ж маці – й кут бацькоў жывы.

*2009*

## Маме

Тваю магілу то сняжок атуліць,
То дождж акропіць чыстаю слязой.
Я рэдка гавару з табой, матуля,
У цішыні амаль што незямной.

Пульсуюць думкі тут аб набалелым,
На будучыню я гляджу з тугой
І ўжо, ці так жыву на свеце белым,
Больш не пытаюся, асірацелы,
Перад уявай вобраза твайго.

*2001, 2019*

***

Душы тваёй красу,
Матуля дарагая,
Я па жыцці нясу,
Яе аберагаю.
Дзе б ні прыйшлося быць
Пад ясным Шляхам Млечным,
Ніколі не забыць
Мне слоў тваіх сардэчных.

Нясу твой вобраз я
Дарогаю зямною;
Са мной любоў твая
І дабрыня са мною.
За новаю вярстой –
Удача ці няўдача –
Любові я тваёй
І дабрыні не страчу.

Не заўважаў я сам,
Матуля дарагая:
Тваёй душы краса
Мяне аберагае.
На сцежках на усіх
Жыве са мною вечна
Святло вачэй тваіх
І слоў тваіх сардэчных.

*2001*

## Маці

Хто адкрыў нам свет,
поўны хараства, таямніц?
Мама.
Хто яшчэ, як яна, ўмее ціха тужыць
у адзіноце,
Чакаючы дзяцей з далёкіх краёў,
Радавацца дочкам і сынам,
Дзяліцца з імі ўсім нажытым,
Даравацць за няўвагу?..
І як бы ні пасталелі дзеці
І як бы далёка ні адышлі ад родных мясцін,
Яна застаецца той жа матуляй –
Добрай, спагадліваю, трывушчай.

Маміна сэрца,
Маміны вочы,
Маміны вусны
Не носяць зла.
Мабыць, ад неба, мабыць, ад сонца,
Ад Маці Боскай
Мама ўзяла гэтак многа святла.

Ад Боскай Маці, ад святой Марыі
Ёсць, мабыць, нешта ў сутнасці матуль,
Інакш адкуль пачуцці іх святыя,
Надзея, вера і любоў адкуль?
З чым параўнаць самаахвярнасць маці,
Яе любоў з чым можна параўнаць,

Калі за шчасце роднага дзіцяці
Не знае шчасця большага яна?

Ёй пасылае Бог, дае Прырода
Высокі подзвіг – нарадзіць дзіця.
З трывогай радасць – гэта ўзнагарода
Навек
          зямной мадонне
                                        ад жыцця.

Маці, на Зямлі твой неўміручы подзвіг.
Свяціся імя тваё!

*2005, 2019*

## Беларускі народ

Чалавек, радзіна, род, народ…
Радасць і смутак чытаю ў тваіх вачах,
На тваім чале, чала-век.
На радзіны, на вяселле, на памінкі
Збіраецца твая радзіна.
Радзіна радуецца.
Радзіна засмучаецца. Радзіна радзіцца.
Нараджаецца рада, удароўваецца парада,
Людзі даюць рады розным бедам, нягодам.
З роду ў род перадаецца ўсё святое.
Вядзецца род. Жыве народ.

Падобна, як на ніве залатому коласу
Пагражае збуялае пустазелле,
Народу майму пагражае насельніцтва глухата.
Хоць, як і сам народ,
Насельніцтва села, асела, пасялілася,
Насяліла паселішчы,
Яно чужое народу,
Бо не ведае той высокай еднасці,
Якую мае народ.
Насельніцтва лічаць, як статак,
Каб ежаю забяспечыць.
Хлеб і відовішчы – спажыва яго.

Народ – родны, высакародны, высокадухоўны.
Лікам не вылічыць яго велічы.
Маса – другарадны панятак.

*Мне назваць бы вялікім цябе, мой адзіны,*
*Ды няма на планеце народаў малых.*

З чым параўнаць народ?
Калі чалавек – зорка, род – сузор'е,
То народ – неабсяжны духоўны СУСВЕТ.
З глыбіні стагоддзяў да нас ідзе
Моц яго стваральнай энергіі.
Праз цэлае тысячагоддзе даходзіць
святло мужнасці
І любові да Бацькаўшчыны
Князя Рагвалода і легендарнай Рагнеды-
князёўны.
Няўрымслівы дух нашчадкаў
Сілкуецца разумнай адвагаю
Усяслава Чарадзея,
святасцю Еўфрасінні Полацкай
І Кірылы Тураўскага,
Стойкасцю Давіда Гарадзенскага
І Сяргея Астрожскага,
Асветнай мудрасцю Францішка Скарыны,
Глыбінным гуманізмам Міколы Гусоўскага,
Геройствам і самаахвярнасцю Каліноўскага,
Хараством талентаў Міхала Агінскага
І Максіма Багдановіча.

Так, народ ёсць духоўны СУСВЕТ. Ды навошта
Я прыгадаў Страцім-лебедзя? Бачу страшнае:

*“І населі тут на лебедзя*
*птахі дробныя ўсёй стаяю”.*

Ці ж не гэтак насельніцтва
Насела на народ ”усёй стаяю”,
Не дае грудзям “вальней уздыхнуць”,
Не дае крылам “шырэй узмахнуць…”
Божа мой, не дай Яму
Долі жорсткае Страцім-лебедзя!
Сэнс які губіць гэтакі Сусвет?!

З роду ў род перадаецца ўсё святое.
Вядзецца род. Жыве народ.

*2000, 2018*

## Люблю Беларусь

Беларусь мая!
Люблю тваю прыгожую і мужную зямлю,
Ласкавыя й багатыя твае нябёсы –
З акіянамі, морамі ды вазёрамі сінечы
Між фантастычна-велічнымі гарамі аблокаў,
З паўстаннямі навальніцаў, бліскам маланак,
Гучнымі арганамі грамоў,
Сямiструннай вясёлкай.
Самыя пяшчотныя васількі цвітуць
на тваіх палях,
Самыя натхнёныя жаўрукі
Спевам заліваюцца ў тваім небе,
Самыя закаханыя ў свеце – твае салаўі,
Самыя тужлівыя – жураўкі твае.
Беларусь! Мая любоў да цябе – святая.
Не магу цябе пакінуць надоўга,
Радасці і пакуты мае – з табой.
(Спачуваю змучана-змушаным
тваім эмігрантам –
Папярэднікам і сучаснікам, а магчыма,
й наступнікам)…
Ты ўся – з песнямі, з палямі і пушчамі,
рэкамі, вазёрамі,
Дарогамі і сцяжынкамі, курганамі, крыжамі –
Жывеш у маім сэрцы.
Мая любоў да цябе драматычная,
Маці-пакутніца, у стагоддзях слаўная
і стагоддзі залежная,
Жорстка абкрадзеная і зняважаная!

Скрыжаванне шляхоў тваіх –
Гэта крыж, на якім распнута,
Бы Хрыстос, запаветная воля твая.
Але мудрыя твае казкі вучаць:
Агрэсіўнае, вераломнае зло
Не пераможа даверлівага дабра.
Ці не таму ў тваёй чуйнай душы
Побач з легендамі й казкамі
Народжаны сардэчныя песні
І гучаць яны на мове такой мілагучнай!
МАЦІ ПРАЧЫСТАЯ! Кланяюся табе –
З мроямі пра незалежнасць, –
Лясной і вазёрнай зямлі,
Сівым курганам,
Нябёсна-сінім зорачкам васількоў;
Услухоўваюся, як чысціня крыніцаў,
Водар суніцаў, грыбоў
Рыфмуюцца з навальніцай, азонам,
дажджом,
Раскатамі грому –
І душой багамольна ўзыходжу
Да жаўруковых мелодыяў, пошчакаў салаўёў,
Светлай тугі жураўлінай,
Да нябёсаў тваіх жыццядайных.
О, мая пажыццёва любімая,
Будзь дабраславёная!
Багаславёная!

*1995, 2019*

## Добры настрой

Звычайна так проста верыцца,
Што новая прыйдзе раніца
І што да мяне зноў звернецца
Ласкава мая абранніца;
Што лепшае ўсё абудзіцца
Для дзеі высакароднае
І што Беларусь адбудзецца
Свабоднай краінай годнаю!

*2019*

## Прастора людской веры

Паляваў драпрежнага звера
Чалавек – памагала вера.

Глыбіню акіяна мераў –
Чалавека натхняла вера.

Адчыніў ён і ў космас дзверы,
Бо душу акрыліла вера.

Ці ў сабе пераможа звера
Чалавек?.. Памагай яму, вера!

*2019*

## Радасць і мальба

Адпалалі квеценню каштаны,
Бэзавы агонь паўсюль пагас.
Адлятае травень-май жаданы
У краіну Незваротны Час.

Мы ідзем – хто хутка, хто павольна –
З радасцямі й смуткамі туды ж.
Жыць вясёла хочам і прывольна,
А нясем пасланы лёсам крыж.

Я напэўна не пакрыўджан лёсам.
Ува мне гарыць-палае цвет.
Крочу я насустрач новым вёснам,
Улюбёны ў гэты белы свет.

Не стагну, не плачу, не ўздыхаю.
Як хацеў, здаецца, так і жыў.
Я жанчын кахаў, яшчэ кахаю,
Воляй даражу, як даражыў.

Усявышні, мне бы плёну ў працы!
За грахі сурова не карай.
І малю: не дай мне памяць страціць
Ды ўратуй наш беларускі край!

*2019*

## У замежжы

Бяссонне.
Сем зорак – як дзіва начное
Ў шырока-высокім гатэльным вакне.
Загадкай ці знакам сузор'е такое
Заззяла так чыста ў чужой старане?

Нябёсаў пытанне
Спасцігнуць мне трэба:
Што чэрпае, што спажывае душа?..
Празрыста і я запытаюся ў Неба:
Што з зорнага мне абяцае каўша?

На нашай зямліцы так вольна, так пышна
Разрося палын і расцвіў, і таму
Прашу: не давай ты гаркоты мне лішняй,
А слодычы лішняе сам не вазьму!

*04.09.2010*

***

Як я чакаў цябе –
пад ліўнямі сонца,
у бязмежжы дажджоў,
у завеях лістоты,
у пустэльні снягоў –
Не ведаў ніхто.

Як сумаваў я –
слых тупеў без тваіх крокаў і голасу,
вочы гаслі без твайго позірку,
вусны грубелі без тваіх пацалункаў,
рукі нямелі без абдымкаў з табою –
Не ведаў ніхто.

Як нам лёгка пад ліўнямі сонца,
Як спакойна ў бязмежжы дажджоў,
Як нам светла ў завеях лістоты,
Як нам вольна ў пустэльні снягоў,
Можа ўведаць увесь белы свет.

*1975, 2018*

## З юнацтва

Рытм задавалі вершам маім
Крокі твае,
Калі набліжаліся.
Рыфмы давалі
Вочы твае,
Калі мне ўсміхаліся.
Сэрца тваё
Даравала натхненне і плён,
Калі грукала гулка –
З маім ва ўнісон.

*10.05.2016*

## Трыялет

У вачах маіх – бліск малады,
Зноў і зноў заўважаеш яго.
Але ж ён – ад агменю твайго.
У вачах маіх – бліск малады.

Ува мне твой адбіўся агонь.
Я вясёлы, і што мне – гады!..
У вачах маіх – бліск малады,
Зноў і зноў заўважаеш яго.

*2002*

## Рук тваіх цеплыня

Параўнаў бы цябе з Афрадытаю
За красу тваю за жаноцкую,
Ды яна ж, Афрадыта, – бязрукая.
А твае рукі цёплыя
Аніколькі не страцілі
Пяшчоты абдымкаў,
Умення кухарыць,
Адбельваць бялізну,
Вырошчваць кветкі,
Лашчыць унукаў,
Што азначае –
Мяне акрыляць.

*2019*

## Яшчэ адна спрыяльная вясна

Ясна так дзень пачынаецца!
Сонцам абняты прастор,
Краскі ў траве прачынаюцца,
Птаствам абуджаны бор.

Дай жа руку мне, каханая, –
Рай гэты кліча зямны, –
Краю ляснога падданыя,
Пойдзем у ранак лясны.

Ёсць калі штосьці трывожнае,
Вераю ў цуд спапялі,
Сэрца сваё заварожана
К сэрцу майму прытулі.

Дальняе, ды незабыўнае
Хлынула ў вочы мае.
Нам пра жыццё хуткаплыннае
Звонка зязюля куе.

*2019*

## Не раўнуй

Будзе лад
Ва ўзаемінах нашых,
Буднях нашых і святах,
Будзе лад у гасподзе,
Ты адно, калі ласка,
Мяне
Не раўнуй
Да паэзіі, прозы,
Да бібліятэкаў, кнігарняў,
Вечарынаў, сябрынаў,
Бальшакоў і сцяжынаў,
Падкарочаных ночак –
Да ўсяго да таго, што
Замінае
Быць з табою даўжэй.

*2019*

***

Хмялела ад кахання галава,
Была ты толькі
марою маёй,
Я тваё фота часта цалаваў,
Жаданая, на ростанях з табой.
Нібыта ўчора даўняе было:
Каханне наша стала на крыло;
Не ў Лету канула, з вадою не сплыло –
Нам штосьці невымоўнае дало!..
Ты зморшынкі на твары не лічы
І не фарбуй сівыя валасы.
Не разлюбіў ні ўдзень і не ўначы,
Палонны двухадзінае красы –
Той, ад якой хмялела галава,
І гэтай, што губляе супакой…
Мне не забыць, як фота цалаваў
І як пайшлі мы ў вір жыцця з табой.

*22.11.2019*

## Калі мы разам…

Хай зразумеў я не адразу:
Мы зрушыць можам бедаў горы
І вычарпаць праблемаў мора,
Калі ў жыцці шчыруем разам.

Здалося: не было паразаў,
Ні слоты, ні цяжкой дарогі,
Адны ёсць толькі перамогі,
Бо па жыцці мы крочым разам.

Невыпадкова мне здаецца:
Пачуць магу я твае мары…
Калі жывецца згодна ў пары,
Багата радасці даецца.

*2010*

***

Што пра інтым,
Думаеш ты?..
Калі я з любай быў разлучыўся,
То быццам радавацца развучыўся.
Як апынуўся з ёй сам-насам,
Забыў часова кантроль над часам
І ўведаў разам з тым, якія
Бываюць вочы гаваркія
Пасля разлукі
Ды гаваркія мае рукі.

*2010, 2020*

## Зачараванасць

Нібыта ўчора ўсё цвіло, буяла –
У садзе гаспадарыла вясна.
А вось ужо і восень завітала.
Як і вясна, мне гожая яна.

Як і вясной, цяпер зачараваны
Прыроды вечна зменлівай красой.
Ідзе з ласкавым сонцам свежы ранак,
Аптымістычны дорачы настрой.

На невымоўны міг зачаравання
Як быццам апынаюся ў вясне,
І восеньскі пачатак завядання
Цвіценнем пышным падаецца мне.

*2019*

## Спагада

Гарыць-палае полымя каліны,
Лісты на клёнах рэдкія трымцяць.
А я замёр, бо вырай жураўліны
Над Менскам пачынае пралятаць.

Шкадую сэрцам птахаў пералётных:
Чакае іх такі далёкі шлях!
Я скруху чую ў галасах самотных,
У ціхіх – з паднябесся – галасах.

Што ж так мяне хвалюе гэта заўшы?
Чаму прывык я птахам спагадаць?
Я чую родных, бежанства спазнаўшых,
Як ім было радзіму пакідаць!..

*2019*

## На беразе хуткай ракі

*Марыі*

Я ўспамінаю хутарок,
Дзе мы, сястра, з табой раслі.
То мілы сэрцу быў куток,
Мы там шчаслівыя былі.

А час пасляваенны быў,
Такі ліхі, суровы час!
Лес выручаў галодных нас –
Дарыў нам ягады, грыбы.

Ды ў голадзе і ў халады
З табой не ведалі бяды:
Нам маміна душа была
Крыніцаю цяпла, святла…

Даўно не стала хутарка –
Ўсё змыла хуткая рака.
І толькі маміна любоў
Не канула ў віры гадоў.

Так не губляе след свой, крок
Усё святое на зямлі…
Жыве краіна хутарок,
Дзе мы шчаслівыя раслі.

*2019*

## Балючае

Квітнее май, красуе поле,
Я ж радасці не прычакаў:
Дзе заблукала твая доля,
Доўгацярплівая дачка?

Джэнтльмен табе не сніцца, рыцар,
Ты азадачана: як жыць?
Ці можна з хамствам прымірыцца,
Або – як хамства перажыць?

Хацеў бы я быць добрым радцам –
Складана. Толькі ж не змаўчу:
Ані да хамства, ні да рабства
Не прывучаў цябе нічуць.

Не ўтаймаваць маіх эмоцый.
Магутны Божа, спагадай
Дачцэ маёй – душэўнай моцы,
Святое мудрасці ёй дай!

*09.07.2020*

## І пры негатыве знаходзьма пазітыў

Жыццё падносіць шмат праблем:
І тут – не так, і там – не тое…
Але
        ёсць
                слоўка залатое:
                                затое…
Давайма разам – я і ты
Падумаем пра пазітыў!

*2019*

## Брава – Брамсу!

Быў я стомлены цяжкаю працаю
І здарожаны доўгай дарогаю,
Я вяртаўся з нялёгкімі ношамі
На плячах і ў руках у маіх;

Быў худым кашалёчкам зажураны,
Там ляжаў адзінокі рубель.

Вось выходжу з метро на Нямізе я –
Раптам бачу скрыпачкаў квартэт.

Чую, граюць дзяўчатачкі гожа так,
Кожны гук выцінаюць так хораша,
Хоць спяшаюцца побач прахожыя.
Брамса танец венгерскі гучыць.

І, узрушаны, я супыняюся,
Ношы стаўлю свае палягчэлыя,
І рубель з кашалёчка схуднелага
Цвёрдай нотай ахвярна звініць.

*2020*

## Красы разбурэнне

Глыбокаю ноччу, пасля мокра-шэрага дня,
Зірнуў выпадкова ў вакно я –
Мяне счаравала бялю-сень-ка-я цішыня
Й відовішча – як незямное.
Як бы нерэальны стаяў белы шэраг ялін,
Бяроз білі ў неба фантаны, –
Так снежань багата аздобіў карункі галін,
Нібыта мастак апантаны.
Я доўга стаяў, любаваўся начною красой,
Асветленай зыркаю поўняй;
Язэпа Драздовіча ўспомніў,
Чурлёніса ўспомніў…
Тады, натуральна, не браў і не браў мяне сон.
Так лёгка мне стала душою узнёслай лунаць
Ва ўладзе нябёснага ладу,
Мацнела жаданне святочным настроем
спаткаць
Год Новы, святыя Каляды!
А ранкам заўважыў знячэўку
ў шырокім вакне:
Вяртаецца зноўку нягода,
Красы разбурэнне выразна адкрылася мне,
З імжою пайшло поўным ходам.
…Па крамах, у мокрых зноў ботах,
азяблы як след,
Блукацьмеш, бы нейкі дундук, ты,
І звыклае скажа табе пры сустрэчы сусед:
– Бля…, зноў даражэюць прадукты!

*2017, снежань*

***

*У. А. Калесніку*

На полі маёй душы
(Праменняў ёй бракавала
І руху было замала)
У соннай глушы
Пустазелле прастору знайшло,
Расло яно, аж буяла,
Ўсю ніўку амаль заглушала,
З’ядала слабое святло.
А Ты ў пустазеллі густым
Заўважыў
Кволых некалькі каласкоў
І ўзважыў,
О, з надзеяй узважыў Ты!..
Настаўнік мой, дбайлівы самы,
Мая ўся душа страпянулася
І ўсімі тады каласамі
Да сонца памкнулася,
Я прагнуў і прагнуў святла,
Знішчаў пустазелле датла.

І вось каласы далі зерне.
Я ласкі тваёй не забыў…
Да цемры душа не паверне,
З ёй – свята жніва і сяўбы!

*1972, 1992*

## Бібліятэка імя У. М. Ігнатоўскага

У Камянцы бібліятэка
Спрыяе шчодра чалавеку –
Тут вечна верніцы шчыруюць,
Увагай чытачоў чаруюць,
Сваім багатым інтэлектам,
Інтэлігентнасцю сваёй.
Тут людзі і зімой, і летам
Да кнігі горнуцца душой.
Храм кнігі я цаню такі,
Перадусім люблю за тое,
Што Ігнатоўскага святое
Імя шануюць землякі.

P. S.
Асобная, напэўна, тэма:
Гісторык даў нам шмат святла,
Ды рэпрэсіўная сістэма
З жыцця вучонага звяла.

*02.06.2020*

## Зоркія вочы і сэрца відушчае

*Н. М. Сцепанцовай*

Люба пабачыцца з Нінай Мацвееўнай,
Першай настаўніцай сына, таму
Ў госці заходжу, бываючы ў Берасці,
Правілу верны свайму.

Люба пагутарыць з добрай настаўніцай,
Што паважала й любіла малых,
Голасу не павышала ніколечкі
На пачаткоўцаў сваіх.

Пашчыравала, душою багатая,
Не прывыкала праблемы лічыць.
Помню, прыехала ў Менск, слепаватая, –
Мусіла зрок палячыць.

Тонкія ўдала прайшлі аперацыі,
І засвяціўся ад радасці твар:
Можна чытаць!.. І да сёння ў настаўніцы
Шмат у кватэры чытва.

Ёй і цяпер белы свет не зашторань.
Што ў свеце дзеецца, бачыць яна:
Зоркія вочы і сэрца відушчае
Ў працы звідна дацямна.

Я па сюжэтах мяркую, падораных
Віднай настаўніцай мне:
Ніна Мацвееўна слова праўдзівае
Ў лепшых выданнях не праміне.

*2020*

## Рэха для вачэй

*Лілі*

Міленькая дзяўчынка,
Стройная, як балярынка,
Ліпку ў двары абняла...
Нібы лілея-кветка,
Колішняя суседка
Вырасла, расцвіла,
Жонкай, матуляю стала,
Гожай жанчынай і ўдалай,
Інтэлігентнай як след.
А мне дало натхненне
Спыненае імгненне –
Фота далёкіх лет.

*2020, сакавік.*

## Маналог смутку і суцяшэння

*Светлай памяці Ніны Мацяш*

Родная, любая, непараўнальная!
Да цябе я звяртаюся як да жывое –
ты ў маёй памяці будзеш вечна жывая.
Мы з табой былі разам зусім жа нядаўна,
і было мне з табой так утульна!
Сэрцам чуў я і слухаў
твае словы, дыханне;
рукі мае памятаюць
да тваіх ручак дотык;
вусны мае памятаюць
пацалункі спаткання, расстання.
Думаў, што расстаемся
мы з табой ненадоўга,
аказалася – назаўсёды.

На Зямлі аніхто не вечны.
Чалавек нарадзіўся –
над ім існуе пагроза…
Ты ў маладосці адчула
ледзяное дыханне:
апынулася ў аўтааварыі
страшнай,
там загінула Люба-сястрыца,
а цябе з цяжкай траўмай
шпіталізавалі…

У суровыя гэтыя дні
я знаходжу адно суцяшэнне:
лёс твой жорсткі
цябе ахінуў сваёй ласкай аднойчы,
абярог,
каб спаўна разгарнула
талент шматабяцальны.
Час адпушчаны
ты не пусціла на вецер:
яркі талент прыродны
і сялянская жылка
плён далі каласальны.
Еўрапейскі маштаб тваіх вершаў,
перакладаў – бясспрэчны.
Тваіх твораў пяшчота і мужнасць
чаруе і цешыць.

О, ты подзвіг здзяйсняла
і жыццёвы, і творчы
у вазку інвалідным!
Тваe рукі слабенькія, сэрца трывушчае
цуды тварылі.
З табой поруч было гэтак лёгка!
Людзям ладзіць любіла застоллі,
быў сябрынай тваёй цэлы свет.
За два дні да зыходу
ты збіралася паспачуваць
Лыхавому, паслу Украіны,
у якога не стала брата,

даперакласці творы
валынянкі Горык,
павіншаваць з юбілеем
украінца Стралка.

Ты любіла людзей
самааддана, самаахвярна,
адну з кніжак так і назвала: “Я вас люблю…”
І любоў твая – узаемная.
Шмат разоў быў я сведкам
людскога паломніцтва ў Белаазёрску,
дзе ты сталася нацыянальнаю Меккай,
бо стварала сябе родным словам праўдзівым.

І на апошнюю – развітальную – стрэчу
з тваёй абаяльнай асобай
адусюль
людзі з’ехаліся і сышліся,
запаўнялі Палац культуры,
засыпаючы дамавіну
хрызантэмамі, ружамі, гваздзікамі,
а ў царкве атулялі цябе
сэрцайкамі агоньчыкаў запаленых свечак,
слухалі святаровы малітвы,
пра цябе пранікнёныя словы.
Ля магілы
прамаўлялі ўзрушальна паэты
перш чым ты адышла ў свае цёмныя ночы,
каб навекі вярнуцца ў святло…

А на памінальнай горкай вячэры,
дзе таксама было вельмі людна,
прафесар Генадзь Праневіч
святою назваў цябе,
роўнаапостальнай Нінай
за тваю дзейнасць.
Увайшла ты ў кагорту
Багдановіча, Арсенневай, Геніюш.
Пра тваю высокую постаць
і ахоўны ўплыў на людзей
красамоўна казалі многія-многія.
Кампазітар з Янова
Валянцін Перапёлкін,
твой і мой добры сябра,
ураджэнец Урала,
прызнаўся,
што яму – праз цябе –
палюбілася мова,
з якою не расстаецца ніколі.

Верыцца мне, што імя тваё зорнае
атрымаюць бібліятэкі і вуліцы,
пэўна, будуць і помнікі,
хоць сама ты стварыла  помнік
сваёй жыццядайнаю спадчынай.

Любая! Слёзы смутку
не замінаюць
сардэчна падзякаваць табе,
што так шчодра мяне адарыла
не адным дзясяткам гадоў
блізкага, мне святога сяброўства.
Ні ад кога ніколі
не адчуў я столькі
цеплыні, шчырай ласкі, пяшчоты.

Пазнаёміліся
мы ў далёкім у шэсцьдзясят сёмым
у Доме творчасці Каралішчавічы.
Там аднойчы пасля вячэры
да асноўнага корпусу
па заснежаным шляху
нёс цябе на руках Анатоль Вярцінскі,
я прыйшоў на падмогу,
ён святую даверыў мне ношу.
Нёс я, нёс, ды ступіў жа на лёд,
прыцярушаны снегам,
спатыкнуўся! Але, дзякуй Богу, не ўпаў,
толькі стаў на калена і мякка цябе прызямліў.
Ды было мне балюча,
бо магла быць бяда!

Прашу даравацЬ мне, калі мо яшчэ
было што не так з майго боку
за сорак гадоў узаемінаў нашых.

Як жа, Ніначка, мне бракавацьме
на Зямлі
твайго позірку,
і ласкава-анёльскага голасу,
і гамонак прыязных сяброўскіх –
усяго, што заву я гаючым святлом!

Хай жа лёгкаю будзе збалеламу целу зямля
і дарога ў царства нябёснае тваёй чыстай
душы!

*21 снежня 2008*

## Журба

*Светлай памяці Эдуарда Зарыцкага*

Не сказаў, што з табою – бяда,
Шкадаваў – не даваў хвалявацца?
Гэтак ціха сышоў, як вада.
Табе ў памяці век заставацца!

Не скарала цябе мітусня,
Быў гармоніі, музыкі магам
І любімую справу здзяйсняў
Так натхнёна, аддана, з размахам!

Даражыў я сяброўствам з табой
Нас дарогі і песні збліжалі.
З белым светам дзялюся журбой
І не бачу мяжы майго жалю.

*07.02.2019*

***

*Светлай памяці Н. М. Пташнік*

**1**

Ніна Міхайлаўна Пташнік,
У вырай збіраліся пташкі
Восеньскай тою парой.
А я ляцеў на сустрэчу
І завітаў пад вечар
У Бераст родненькі мой.

Вось я ля вашай кватэры;
Мне адчыняюць дзверы
Вашыя дзеці адны…
Што ж у іх выгляд самотны?
Толькі што ў шлях незваротны
Вас правялі яны.

Вас мы віном паміналі,
Шмат усяго ўспаміналі,
Вашу да свету любоў.
Разам пасумавалі,
Быццам падсумавалі
Справы пражытых гадоў…

**2**

Ніна Пташнік дзяцей вучыла
І ахоўвала, і лячыла
Родным словам ад зла.
Гадавала дачку і сына,
Прыгажосць у сабе насіла –
Гарманічнай была.

І чытала яна штодзённа,
І вяла свой чытацкі дзённік,
Бы ўнушала ўсім нам,
Што настаўнік – жывая справа,
Ён дзяцей вучыць мае права,
Пакуль вучыцца сам.

**3**

Кветкі любіла,
Глебу капала,
Клумбы рабіла
І даглядала.
Красе спрыяла
Кажнюткім рухам.
Будзь жа, зямліца,
Ёй вечным пухам!

*2019*

## Цуд – побач

**1**

Святар цудоўны Елісей,
Сяброўствам з ім я ганаруся:
Ў ім бачу ў росквіце, красе
Усю прыроду беларуса.

Душу узрушвае сваёй
Любоўю да людзей крынічнай,
Чаруе шчырасцю гранічнай
Ды беларускай гаманой.

О, мовы роднай гамана,
Жывая, гожая такая!
Не забываецца яна,
Бо ў сэрца з вуснаў пранікае.

Святар камусь настрой падняў,
Надзеяй адарыў кагосьці…
Невыпадкова, як радня,
Ў яго штодня бываюць госці.

Яму вы – сёстры і браты,
Каго сюды вядуць дарогі
І хто не супраць дабраты
І узаемадапамогі.

Сумленны прыклад можа даць:
Дзеля царквы трымае соткі,
А іх жа трэба даглядаць,
Не так і мала іх – паўсотні.

Расце няблага бульба там,
Калі абробіш дбайна соткі.
Глядзіш, дабавяцца на храм
Хоць небагатыя ды сродкі.

Манах, дарэчы, і пчаляр,
Пчальнік ёсць у яго выдатны.
Хіба звычайны то святар,
Калі да спраў ён гэткі здатны?

Адведаў на сваім вяку
Мядоў усякіх я нямала,
Такога ж  боскага мядку
Раней набыць не шанцавала.

Манах у клопатах жыве,
За ўсіх душой перажывае.
Нястомна роднай ён царкве
І мёдам грошы здабывае.

Хай самавіты чалавек
Свабодны і немітуслівы,
Ды ён увесь зямны свой век
Падобны да пчалы руплівай.

Быць гаспадарлівым такім
Бацькі яго ў сяле вучылі.
Бальшавікі
У кулакі
Такога б хутка залічылі.

Далі б як ворагу яму
Сістэмы сталінскай пілаты
У лепшым разе – Калыму,
У горшым – Курапаты…

Яму пашэнціла пазней
На божы белы свет з’явіцца,
Жыць не прывольна, ды вальней,
Даць найжаданай мроі збыцца.

А мроя чыстая была
Адобрана сям’ёй дабрэйшай –
І шляхам БОСКАГА СВЯТЛА
Пайшоў ён з Кнігай наймудрэйшай.

**2**

Туркі – вядомае сяло,
Жыве звычайна: жне ды сее…
Ну а вядомасць набыло
Ад дабрадзея Елісея.

Святар з малітваю прыйшоў,
Любві, надзеі, веры поўны,
Схіліўся чуйнаю душой
Над папялішчам над царкоўным.

Ён Богу й вернікам служыў,
У хаце сельскай у прыветнай
І неадступнай справай жыў,
Высокай мэтай запаветнай.

Нібыта голасам жывым,
Сваім нямым каменным крыкам
Падмурак спаленай царквы
І ў снах яго штоночы клікаў.

Не архітэктар ён, ды храм
Узняў да сонца адмысловы,
Праект не пазычаў, бо сам
Прыдумаў геніяльна – новы.

Не апісаць, як набываў
Кубоў за трыста лесу,
Як будаваў, перажываў
Сем год і поспехі, і стрэсы.

Ды з вераю – не бедаваць,
Яна душу заўжды сілкуе.
Бог дапамог пабудаваць
Царкву, прасветлую такую.

**3**

Яго спаткаў быў першы раз,
А ўражанне было – як быццам
Мы добра знаемся ўвесь час.
Той стрэчы трэ' было адбыцца.

У сціплай хатачцы сваёй
Мяне ён стрэў усмешкай добрай –
І я адчуў: перада мной
Праўдзівы беларуса вобраз.

Адразу ўбачылася мне:
Надзейны ён, такі людзімы.
Я зразумеў крыху пазней,
Што ён – па сутнасці – ранімы.

Малітвай жывучы, манах
Глядзіць суровай праўдзе ў вочы:
Свет захлынаецца ў грахах
І каяцца ні ў чым не хоча.

Люд прагне ў большасці сабе
Пустых відовішчаў і хлеба,
Матэрыяльны стог скубе,
Яшчэ чакае манну з неба.

За грошы можа ўсё прадаць
І родзічам сваім нагадзіць,
І бліжняга абрабаваць,
І дарагому другу здрадзіць.

Ды смелай думцы не сатлець:
Заўсёды гэтак быць не можа,
Бо варта людзям захацець –
Бог д'ябла ў людзях пераможа.

*

Калі ж душу праймае боль,
Святар ідзе да пчол спачатку:
У грамадзе пчалінай больш,
Чым у людзей парой, парадку.

*2014, 2018*

***

*Кацярыне Пархута-Разанавай*

І квітнее, і травее
Травень, ветраны такі.
У пялёсткавых завеях
Хай лятуць мае дзянькі.

Ад сталіцы люднай, шумнай,
Ад прывычнага быцця
З'ехаў я нелегкадумна
Да вясковага жыцця.

Слухаць горкія навіны
Я стаміўся, не хачу!
У садочку салаўіным
Летуценна памаўчу.

Будзе доўга потым сніцца
Мне ружова-белы цвет.
Будзь здаровая, сталіца!
Будзь здаровы, белы свет!

*2020, красавік*

## Знянацку

Дзякуй, дождж, табе за ласку,
Што знянацку ты паліў
І на нейкі час нікуды
Мяне з хаты не пусціў!

У кампаніі пабыў я
Думак-роздумаў сваіх,
З імі подаўна не быўшы,
Адпачыў я сярод іх.

Яшчэ голас мяне ўсцешыў,
Што на радыё ўваскрос, –
Праспяваў Мулявін песню,
Дар “Малітвы” мне данёс!

Ты як быццам, дождж, уведаў,
Хутка з неба ідучы,
Што было найболей трэба
Для параненай душы.

***

Я не бачыў, каб хтосьці любіў гэтак кветкі,
Як найблізкая мне прыгажуня,
Сее, садзіць і ўсё даглядае –
Кожнай раніцай з імі гамоніць:
“Мае вы харошыя, любыя!..”,
Поіць свежай вадою крынічнай,
Рыхліць глебу, ахоўвае клумбы,
Пад зіму укрывае сваіх гадаванцаў.

І вясною, і ўлетку, і восенню ранняй
Кветкі хатачку ўсю атуляюць пяшчотна,
Не злічыць іх, вясной – геацынтаў духмяных,
Летам – белых, ружовых раскошных півоняў,
Што ласкавымі чыстымі зоркамі ззяюць,
І такіх жа сардэчных лілеяў, вяргіняў і ружаў,
А пад восень – трывалых пучкі хрызантэмаў,
Што нагадваюць мне феерверкі салютаў.
Месца ёсць і гасцям з поля, лугу і лесу –
Васількам і званочкам, рамоначкам
сціплым…

І няновая хата прыхільніцы кветак
Пачуваецца, пэўна, зусім маладою.
Мне ж яна ў моры кветак нагадвае ветразь,
Асабліва вясной, калі й сад расквітнее.

## Экспромт

*Т. Равяка*

Плот у маёй суседкі –
Танюсенькая сетка;
За тою сеткай Таня
Шчыруе апантана.
Мне дужа імпануе,
Што там заўжды пануе
Парадак, прыгажосць.
Нядарам да суседкі
Мае хінуцца кветкі.
Напэўна, у суседкі
Штосьці сонечнае ёсць!

## Нота ля

Неяк ціхай парою вясноваю,
Захмялелы ад класікі,
Паглядзеў я ў вакно –

І прыкмеціў жывую паэзію:
Маладзіца-суседка рухавая
Мыла вокны якраз.

На яе тою вольнай часінаю,
Быццам на незнаёмую,
Я натхнёна глядзеў.

Падаваліся мне бліскавіцаю
Рукі голыя гожыя,
Іх ажыўлены рух.

А яшчэ позірк мой заварожвалі
Валасы акуратныя,
Профіль правільны,
Бюст.

Я на  постаць глядзеў грацыёзную
І на рукі на музыкальныя,
Думаў я пра суседкі імя –

Воля. Штосьці тут меладычнае,
Нездарма ў блізкім імені
Я знайшоў ноту ля.

## Паратунак

Як жа так вы, маляўкі крылатыя,
Уляцелі імгненна ў ваду?
Ці ж вада мая тут вінаватая,
Набіраў яе не на бяду!

Не міруся з любою бядою,
Як хутчэй адганяю яе,
Ад працяглае спёкі вадою
Я ратую расліны свае.

Шкода й вас мне, крылата-імклівых,
Хтось ляцеў на сігнал, можа, SOS.
Гэты міг вы адчуйце шчаслівы:
Паратунак я ўсім вам прынёс!

Матылёчкі, жучкі, пчолы, восы,
Вы крыляйце ў прыродзе жывой,
Дзе здараюцца часта дзівосы
І не мае мяжы хараство!

***

Высачэзнае гожае дрэва
Паваліў ураган –
У бары ўпала хвоя, што чубам густым
Даставала аблокі.
Мне зрабілася сумна –
Пастаяў, пахадзіў, усё дрэва агледзеў.
І здзівіўся: як доўга
Па сутнасці мёртвая хвоя стаяла!
Як слабыя трымалі яе карані?
Я падумаў тады:
Не ўсе могуць асілкі
Супрацьстаяць ураганам –
Справа ўся ў каранях.

## Крылатыя рукі

Бабулькі рукі клапатлівыя,
Бясконцай працаю занятыя,
Чаму такія нешчаслівыя:
Бярэ хвароба клятая!

Прызналі нешта дактары:
Ці то артроз, ці то артрыт…
Яна ж не ходзіць па аптэках:
– Нямаш надзейных, – кажа, – лекаў.

Бабулькі рукі яшчэ здатныя:
І пірагі пякуць выдатныя,
І шыюць вопраткі харошыя,
І росцяць кветкі гожыя.

Сакрэт крылатых рук такіх:
Трымае толькі праца іх,
Яна адвеку і давеку
Вышэй надзейных самых лекаў.

*2020, чэрвень*

## Дар

*Акраверш*

Пятрарка, Пушкін, Багдановіч…
Ад Бога – несмяротны дар.
Эмоцый, думак рух у Слове,
Заўсёдная прысутнасць чар.
І вечная загадка-таямніца:
Як можа ў вершы цэлы свет змясціцца?

*2000*

## Белы гімн

**1**
**С**онца яснае, прамяністае,
**О**, якое ты жыццядайнае,
**Н**епагаснае і нястомнае!
**Ц**емру прэч праганяючы,
**А**святляеш дарогу мне.

**2**
Рад вітаць цябе, сонца!
Натуральна, сумую,
Калі ты за імглой.
Нездарма ты і ў сон мой
На Каляды прыйшло:
Вось я крочу па мосце,
Ты спускаешся з неба,
А мне дорыш цяпло.

О, жыцця майго сонца
Яшчэ не заходзіць
І мой мост не кароткі –
Так паказвае сон.

**3**
Сонца яснае,
З вышыні сваёй
Ты ўсё бачыш,
Ты ж паглядзі
На літару **0**
Ў маіх вершах.
Тут яна частая,
Бо нагадвае
Форму тваю,
О, маё сонца!

*2018, снежань*

## Палёты ў снах

…Над зямлёй мяне ўзнімаюць
Крылаў-рук узмахі –
Пада мной ужо мільгаюць
Сцежкі, гмахі, птахі.

Гэтак вольна, гэтак лёгка
Узлятаю ўгору,
Аглядаюся здалёку –
Анікога поруч.

Застаецца хваляванне
У мяне з турботай:
“Ваша, людцы, дзе жаданне
Зведаць кайф палёту?”

*2004*

## Імгненні роздумаў

*******

Маленькае сэрца птушынае
Магутнай валодае сілаю:
Асільвае немагчымае –
У вырай дарогу і з выраю.

***

Парадзелая крона
Асенняга клёна,
Пышны колішні чуб свой
Чамусьці я ўспомніў.

***

Сцежкі слядоў галубіных на снезе
Нагадалі маю вышыванку.

***

Сонца ўзыход мажорны
І захад мінорны.
Якраз паміж імі –
Мае дні і ночы.

***

Спаткаліся,
Стаім, гамонім.
Тваіх вачэй вясна
Насупраць лета маіх вуснаў.

***

Засынаю з усмешкай на вуснах:
Столькі стрэў за дзень белы
Я любімых людзей!
Зноў праходзяць яны прад вачыма.

*2003*

***

Не звужу свет
да шырыні вакна,
да шырыні сцяны,
сцяжыны й поля.
Як вецер пахне!
Як цвіце вясна!
Я
вас
люблю,
прырода,
людзі, воля!

*2001*

## Шахматы, я думаю пра вас

Для адных вы – забава,
Для другіх – рэйтынг, рост,
Шлях камусьці да славы,
Да здабычы – наўпрост.

Для мяне – азарэнне,
Мыслі свежае ток,
Шахматы, – і натхненне,
Да паэзіі крок.

*2020*

***

*Андрэю Федарэнку*

Далёка ад забавы лёгкай
Існуе шахмат хараство;
Не зведаў цар, ні раб, ні лёкай
Ягонай існасці жывой.

Краса і сіла ў моцным духу,
Што выяўляе тут сябе,
У філігранна-трапным руху,
У захапляльнай барацьбе,

Калі наносіцца не зморам
І свіце крах, і каралю!..
Як неўгамонны шторм на моры,
Як волю, шахматы люблю.

Мне, пэўна, з імі не расстацца,
Прыходзяць да мяне і ў сны.
А як высокае мастацтва –
Невычарпальныя яны.

*2000, 2020*

## Двойчы пра адну стыхію

*Вадзіму Жылко*

Шахматы, вы не на жарт
Дадзены, не на забаву,
З вамі не толькі азарт –
Волі й натхнення праява.
Вы – не для шэрых людзей.
З вамі – бяссонныя ночы.
Вас не разлюбіш нідзе,
Упадабаўшы аднойчы.
Шахматы – строгі іспыт.
Шахматы – выбар дарогі…
Шахматы – шлях барацьбы,
Шахматы – смак перамогі!
Вас не разлюбіш павек,
Вас не заменіш дарамі.
Бедны той чалавек,
Што не выхоўваўся вамі.

***

Калі разважаю
Пра шахматы, іх невычэрпнасць,
Красу і сілу атакі,
Гульнявых камбінацый,
Бліскучых задач і эцюдаў,
Узнікае пытанне:
“Хто пра ўсё гэта
Не суха, а з захапленнем,

Цікава, пераканаўча
Мог бы павесці гамонку?”
Я адказваю: “Толькі Каіса”.
Калі думаю пра паэзію шахмат,
Мне здаецца, пра гэта
Распавесці можа толькі паэт,
У шахматы фанатычна ўлюбёны,
Бо паэзія шахмат –
Далікатная боская рэч,
Спалучэнне красы і сілы.
Зрэшты, й гэта – стыхія Каісы.

*2005, 2009*

## Апантаны творца

Вольфа Рубінчыка
Неяк назваў я
Андарсанам у шахматах,
Тады яшчэ не ведаючы,
Што гросмайстар Бранштэйн
Запавятаў яму:
“Галоўнае ў шахматах – гэта фантазія…”,
І толкам не ўяўляючы,
Які цудоўны ён фантазёр!
Як праблеміст за тры гады
Узбагаціў казачныя шахматы
Ажно пяццю фігурамі,
Стварыў задачы з удзелам
Поні, казы, вожыка, вароны і шчупака.
Гэта – арыгінальнае спартовае мастацтва!

А калі я засвоіў ягоную кнігу
“Жывуць вольныя шахматы”,
То зразумеў,
Які ж ён выбітны і паслядоўны даследнік,
Засяроджаны аналітык,
Размаіты, шматколерны, нібы вясёлка,
наватар,
Разняволены, глыбокі пісьменнік,
Часта дасціпны, і – так немалаважна –
Бліскуча валодае “тарашкевіцаю”…
Брава, Вольф! Я ўпэўнены:
Давід Ёнавіч задаволены –
З нябёсаў усё ён бачыць.

*10–11.09.2010*

## Вершы для Настачкі

З Настачкай Бондар мы гулялі ў першым туры на Мемарыяле Тацяны Загорскай 21.12.2015.

1.c4 e5 2.Кc3 Кc6 3.Кf3 d6 4.d4 ed 5.К:d4 Cd7 6.e4 g6 7.К:c6 С:c6 8.Сe3 Cg7 9.С d4 К f6 10.Cd3 0-0 11. 0-0 Лe8. 12. f3 С d7 13. b4 b6 14. Л c1 c5 15. bc dc 16. Cf2 Фc7 17. Cg3 Фb7 18 h3 К h5 19. С h2 Лad8 20. g4 Кф6 21. e5 h5 22. ef С:f6 23.Фc2 С d4 + 24.Крg2 hg 25. hg Кр g7 26. Се4 Фс8 27. Лсе1 Лh8 28. Cd5 Лh7 29.Се5+ С:е5 30.Л:е5 Лdh8 31.Фе4 Лh2+ 32.Кр g3 Фс7! 33.С:f7 Л8h3+ 34.Кр f4 Сс6 (?) (Настачка працягвала контратакаваць, толькі не бачыла мацнейшага ходу 34…Cf5!, пасля якога я мог памыліцца: 35. gf…) 35. Ф:g6 + Кр f8 36. Фg8X

Пасля гэтай партыі я пажадаў кволенькай з выгляду, але моцнай духам дзяўчынцы не расставацца з атакуючымі шахматамі, а верш у мяне з’явіўся, быццам з неба спусціўся, у той жа вечар.

***

Пасля няўдач
сябе не дакарай,
Няма без паражэнняў перамог…
Ты будзеш праслаўляць наш родны
край,
Паэт прарочыць поспех, бачыць Бог!

Тваіх атак я зведаў крыгаход…
Тваёй гульні мастацтва блізка мне…
Адно абдумвай болей кожны ход –
І радасць перамог не абміне!

*21.12.2015*

Прамінула больш як чатыры гады. Па тэлефоне я скантактаваўся з Тацянай Бондар, мамай Настачкі. Пацікавіўся, ці захаваўся ў іх мой верш. Спадарыня Тацяна сказала, што ён у рамцы вісіць у іх на сцяне. І я Насці Бондар адрасаваў новыя вершы.

***

Ты ў росце творчым не адстала,
Інтэлігентная душа,
Вось чэмпіёнкай Менска стала,
Расце твой шанц і, мабыць, шарм.

Цябе чакае маладосць,
Любоў і славы брама.
Усё ў цябе для росту ёсць,
Бо майстар спорту – мама.

*01.03.2020*

## Вясёлы ўспамін

Падараваў табе радкі
Свайго я захаплення,
І выклікаў мой крок такі
Прыемнае здзіўленне…

Працяг турніру быў назаўтра,
Я партыю гуляў азартна.
Ты шакалад на край стала
Паклала й хуценька сышла.
Я ўсхвалявана прачытаў
Merci на тых цукерках.
Партнёр мой нешта прашаптаў,
Уткнуўшыся ў паперку.
Ён на мяжы правалу быў,
Мог супыніць змаганне.
Тут я паганы ход зрабіў,
Відаць, ад хвалявання,
Што не паспеў цябе дагнаць,
А быў душой гатовы
Тваёй матулі перадаць
Падзякі шчырай словы…

Ды з гонару гарэў мой твар,
Бо за экспромт кароткі
Займеў я шчодры ганарар,
Прытым такі салодкі!

*04.04.2020*

## Змест

## ІНТЫМНЫ ЛАД



## ДУХОЎНАЯ РАДНЯ



## НА ЛЕЦІШЧЫ

**ДАДАТАК**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Жуковіч** Васіль Аляксеевіч

# БОЛЬ, І ВЕРА, І ЛЮБОЎ

Кніга паэзіі

Падпісана да друку 24.12.2020.
Фармат 75х100/32. Папера афсетная.
Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 2,6.
Наклад 111 ас. Замова 656.

ТАА «Каўчэг»
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/381 ад 01.07.2014.
вул. Л. Бяды, 11/1-205, 220040, г. Мінск.
Тэл./факс: (8017) 379 19 81
e-mail: kovcheg_info@tut.by
Instagram: kovcheg_info, Facebook: infoKOVCHEG